### ДНІ НАРАДЖЭННЯ

430 гадоў таму (1570) **І. Фёдараў** выдаў у Заблудаве "Псалтирь с Часословцем".

**17 сакавіка** 1870 года зацверджана палажэнне аб Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі.

**21 сакавіка** 160 гадоў з дня нараджэння **Францішка Багушэвіча** (1840–1900), беларускага паэта, пачынальніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

**22 сакавіка** 80 гадоў з дня нараджэння **А. Пысіна** (1920–1981), беларускага паэта.

**23 сакавіка – Сусветны метэаралагічны дзень.**

*ДЭМАГРАФІЯ*

# Сёлета жыхароў Беларусі стане менш за 10 мільёнаў

МІНСК. У 2000 годзе жыхароў Беларусі стане менш за 10 мільёнаў. Натуральны спад насельніцтва назіраецца ў краіне з 1994 года. За апошнія шэсць год колькасць жыхароў скарацілася прыкладна на 300 тысяч. Гэта першае вядомае за ўсю гісторыю Беларусі такое працяглае зніжэнне колькасці насельніцтва ў выніку натуральнага спаду. Асноўныя прычыны – рост смяротнасці і спад нараджальнасці. Так, калі ў 1990 годзе каэфіцыент нараджальнасці на 1000 жыхароў складаў каля 14 чалавек, то ў 1999 – 9,3; каэфіцыент смяротнасці – адпаведна 10,7 і 14,1.

Раней колькасць жыхароў краіны змяншалася пераважна ў выніку эпідэмій (напрыклад, чумы ў 1563-66 гадах) і войнаў. Так, у вайне 1654-1667 гадоў паміж Рэччу Паспалітай, у склад якой уваходзіла Вялікае княства Літоўскае, і Маскоўскай дзяржавай загінулі 53% насельніцтва Беларусі. Паўночная вайна 1700-1721 гадоў адабрала жыцці яшчэ трэці жыхароў краю. Падчас першай сусветнай вайны былі забіты і памерлі 1 мільён 200 тысяч беларусаў. Сур'ёзныя страты панесла рэспубліка і ў сталінскі перыяд. Так, калі ў 1927-1932 гадах колькасць жыхароў павялічылася на 720 тысяч, то за 1933-1938 гады – толькі на 220 тысяч.

Згодна з гістарычнымі звесткамі, колькасці ў 10 мільёнаў чалавек Беларусь дасягала двойчы – у 1939 і 1986 гадах. У 1939-м, дзякуючы далучэнню Заходняй Беларусі да БССР, насельніцтва рэспублікі павялічылася да 11 мільёнаў чалавек. Але ў 1939-40 гадах урад СССР перадаў Віленшчыну Літве, у выніку чаго колькасць жыхароў Беларусі зменшылася да 10,5 мільёна. Потым грымнула другая сусветная вайна, якая пахавала каля трох мільёнаў беларусаў і выгнала з родных мясцінаў яшчэ адзін мільён. У 1945 годзе насельніцтва рэспублікі складала 6 мільёнаў 265 тысяч.

Хуткаму яго павелічэнню садзейнічала рээвакуацыя грамадзян, якія выехалі з Беларусі ў гады вайны. У выніку ў 1950 годзе колькасць жыхароў перавысіла 7.700 тысяч. Чарговымі фактарамі, што выклікалі змяншэнне жыхароў Беларусі, сталі перадача Польшчы Беласточчыны і трох раёнаў Брэстчыны (чаму спадарожнічаў абмен насельніцтвам), а таксама працоўная міграцыя ў Сібір і Казахстан. З гэтай прычыны ў 1951-52 гадах колькасць жыхароў Беларусі зменшылася на 88 тысяч, у 1954 – на 28 тысяч. З таго часу распачаўся працяглы рост насельніцтва рэспублікі, і мяжу ў 8 мільёнаў чалавек беларусы перайшлі ў 1958 годзе, 9 мільёнаў – у 1970, 10 мільёнаў – у 1986. З 1994 года колькасць жыхароў краіны штогод змяншаецца на 20-40 тысяч.

Праўда, любая статыстыка не з'яўляецца бязгрэшнай. Так, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, на 1 студзеня 1999 года насельніцтва Беларусі складала 10.179,5 тысячы чалавек. Але перапіс, праведзены летась у лютым, назваў лічбу на 130 тысяч меншую.

За 1999 год натуральнае змяншэнне насельніцтва Беларусі склала 31,1 тысячы чалавек. Калі такія тэмпы захаваюцца і сёлета, то, паводле прагноза інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, да новага, 2001 года беларусаў застанецца прыкладна 9 мільёнаў 990 тысяч чалавек. Фатальным, хутчэй за ўсё, стане жнівень – менавіта ў гэтым месяцы чакаецца змяншэнне колькасці насельніцтва ніжэй за адзнаку 10 мільёнаў.

*Алесь ЛІПАЙ, БелаПАН.*

*НАЗАВЕМ ПАЙМЕННА*

*Чытач! Жыццё падказала новую рубрыку: "Назавем пайменна". Апошнім часам у нашай краіне са свабодай слова, мякка кажучы, не ўсё ў парадку. Некаторыя чыноўнікі, асвойтаўшыся ў мяккіх крэслах, лічаць за лепшае, каб ніхто не ведаў, чым яны займаюцца. А з журналістамі, якія занадта цікавяцца інфармацыяй з чыноўнага кабінета, лічаць за лепшае не размаўляць: менш клопату. А то чытачы яшчэ пачнуць званіць, пытанні непатрэбныя задаваць. Сёння герой нашай публікацыі*

# Васіль Драня

"Рэгіянальная газета" традыцыйна публікуе статыстычныя звесткі з раёнаў і гарадоў рэгіёна, у тым ліку, і па беспрацоўі. У гэты нумар карэспандэнтам "РГ" Юрыем Карпіцкім рыхтаваўся чарговы матэрыял ў рубрыку "Беспрацоўе". Не было вялікай праблемы сабраць звесткі з усіх мясцовых цэнтраў занятасці. А вось у Ашмянах журналіста спачатку пераадрасавалі на кіраўніка цэнтра Васіля Драню. А той, спаслаўшыся на немэтазгоднасць размяшчэння такой інфармацыі ў "Рэгіянальнай газеце", у ёй, інфармацыі, адмовіў.

Рэдактар газеты палічыў, што Васіль Іванавіч проста не пачуў, што хацеў папрасіць карэспандэнт, і перазваніў у Ашмяны. Аказваецца, чыноўнік усё добра зразумеў, але сапраўды не лічыць патрэбным даваць такую інфармацыю ў "Рэгіянальную газету". І ўвогуле, у яго ёсць свая газета, а пра "Рэгіянальную" ён і не ведае. Як не ведае і пра "Закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Да таго ж, рэдактар адбірае ў яго час. Урэшце, Васіль Драня кінуў трубку.

Кожны дзень называе свайго героя. Сёння такім стаў Васіль Драня, аб чым мы табе, паважаны чытач, і паведамляем.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ, галоўны рэдактар "РГ".*

> *«Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права на* ***своечасовае, аператыўнае атрыманне*** *праз сродкі масавай інфармацыі дакладных звестак аб дзейнасці дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, аб палітычным, эканамічным жыцці, стане навакольнага асяроддзя. Рэдакцыя мае права запытваць такую інфармацыю аб дзейнасці дзяржаўных органаў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў, іх службовых асоб. Запытанне інфармацыі магчыма як у вуснай, так і пісьмовай форме».*
>
> *Артыкул 32 «Закона Рэспублікі Беларусь аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».*

*БЮДЖЭТ*

## У мясцовага бюджэту – праблемы

СМАРГОНЬ. У студзені пры плане ў 454 мільёны "новых" рублёў у раённы бюджэт удалося сабраць падаткаў і іншых паступленняў на суму толькі 288 мільёнаў. У лютым становішча было не лепшае.

Асноўная прычына – прастойваюць буйныя агрэгатны і ліцейна–механічны заводы. У паўсілы працуюць маслазавод, камбікормавы і льнозавод. У выніку яшчэ не атрымалі свае лютаўскія зарплаты настаўнікі горада і раёна. У лепшым выпадку яны атрымаюць заробленае да 20 сакавіка.

*Павел МАКЛЮК.*

*«РГ»–СТАТЫСТЫКА*

## Колькасць беспрацоўных у рэгіёне павялічылася

Люты–месяц амаль ва ўсіх раёнах нашага рэгіёна адзначыўся павелічэннем колькасці беспрацоўных:

Становішча на 1 сакавіка наступнае (у дужках – змяненні за мінулы месяц):

| | | |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1305 (+88) чал. | 2,2% |
| Маладзечанскі раён | 236 (+16) чал. | 1,0% |
| Астравецкі раён | 355 (+20) чал. | 2,2% |
| Ашмянскі раён | (было 163 чал. на 1.02.2000 г.) | |
| Валожынскі раён | 197 (+3) чал. | 1,0% |
| Вілейскі раён | 531 (+43) чал. | 1,7% |
| Смаргонскі раён | 1363 (+17) чал. | 4,1% |

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

*НАШЫ ІНТЭРВ'Ю*

# Аляксандр Гіруць: «Мотаспорт у Беларусі ведаюць і любяць»

**– Як становяцца мотагоншчыкамі? Як было ў вас?**

– Вельмі проста. Трэба ў дзяцінстве прыйсці паглядзець спаборніцтвы і зацікавіцца гэтым відам. Мусіць, усе так трапляюць у мотаспорт, і я не выключэнне. Убачыў гонкі і, што называецца, загарэўся імі. Тым болей, Ашмяны – адзін з беларускіх цэнтраў мотакросу. У савецкія часы тут былі моцныя спартсмены – займалі прызавыя месцы на саюзных чэмпіянатах, якія па ўзроўні не саступалі сусветным першынствам. Напрыклад, **Юрый Лопух** альбо **Уладзімір Даўляшэвіч**. Між іншым, у Маладзечне жыве яшчэ адзін вядомы майстар тых часоў – **Антон Шэпет**. Даўляшэвіч стаў маім трэнерам напачатку 80-х. Тады на Ашмяншчыне было некалькі клубаў. Я займаўся пры калгасе "Маяк"; праблемаў з тэхнікай не было – ездзілі, у асноўным, на чэхаславацкіх "Чыжэцах".

**– Цяпер зусім іншае матэрыяльнае становішча?**

– Апошнімі гадамі вельмі змянілася тэхніка. Сучасныя замежныя дарагія па кошце матацыклы ("Хонда", "Сузукі", "Кавасакі", "Ямаха"), можна сказаць, дапамагаюць спартсмену. Узраслі хуткасці, гонкі сталі больш відовішчныя. Змяніліся і трасы, па якіх ужо не праедзеш на былой тэхніцы. У 1990 годзе гродзенскі завод "Азот" купіў для беларускіх спартсменаў італьянскія "Каджывы", на якія мне ўдалося перасесці.

**– Як развівалася кар'ера?**

– Па юнаках быў чэмпіёнам БССР, у складзе зборнай рэспублікі выступаў на саюзных турнірах. На працягу 90-х, здаецца, заўсёды выйграваў нацыянальныя чэмпіянаты. З 1991-га стаў выязджаць на міжнародныя спаборніцтвы. У 1992-93 гадах выступаў па кантракце за клуб з польскага Ольштына. Там за сезон (красавік-кастрычнік) адбываецца каля пятнаццаці стартаў. Абодва гады займаў другое месца ў асабістым заліку на матацыклах з аб'ёмам рухавіка 125 кубічных сантыметраў. Затым перасеў на 250 куб/см і чатыры сезоны прадстаўляў клуб з Гданьска. Двойчы (у 1995-м і 1996-м) выйграваў асабісты залік. Далей у польскім чэмпіянаце забаранілі выступаць іншаземцам. Пераехаў у Расію, дзе правёў сезон-98 у Іжэўску. Каманда стала мацнейшая на расійскіх прасторах, а мне ў апошняй гонцы давялося падвесці пераможную рысу. Мінулы год правёў сам па сабе, была траўма рукі. Толькі напрыканцы сезона пастунова набраў форму – калі помніце, выйграў дамашні "Кубак Садружнасці". Цяпер у мяне праблемы з матацыклам. Каб больш-менш паспяхова выступаць, кожны сезон патрэбная новая тэхніка. Праз год актыўных выступленняў прыходзяць у няспраўнасць хадавая частка, рухавік... Так што на будучае пэўнасці ў мяне няма.

**– Калі ласка, падрабязней пра грашовы бок матакросу. Колькі каштуе тэхніка? Як шмат вам удаецца зарабляць на спаборніцтвах?**

– Зарабляць нічколькі не ўдаецца. Гэта вельмі дарагі від спорту. Шмат грошай забірае тэхніка, запчасткі. Так, прыкладам, балон гумы, які трэба мяняць перад кожным стартам, каштуе 60-100 долараў. Звычайны, серыйны матацыкл – недзе 5500 долараў, а спецыяльны гоначны з належным рухавіком, амартызатарамі – каля 80 тысяч нямецкіх марак.

**– Якія самыя папулярныя спаборніцтвы ў свеце матаспорту? Вось мы часта бачым па тэлевізары гонкі матабайкераў. А што можна сказаць пра ўдзел беларусаў у сусветных турнірах?**

– Мотабайк – гонкі на роўнай паверхні. Гэта розныя віды з мотакросам. Па кросе праводзяцца чэмпіянаты свету і Еўропы. Разыгрываецца Кубак Еўропы, адзін з этапаў якога пазалетась праходзіў у Ашмянах. Сёлета плануецца ў Ваўкавыску чэмпіянат свету для матацыклаў з каляскамі. Таксама там пройдзе камерцыйная гонка звычайных "жалезных коней" з аб'ёмам рухавіка 500 куб/см. Наколькі ведаю, цяпер лепшыя "красмены" свету знаходзяцца ў Іспаніі на зборах. У беларусаў такой фінансавай магчымасці няма. Трэба чакаць, пакуль знікне снег дома. Я цяпер проста займаюся на трэнажорах у спартзале. Для нас трапіць у лік недзе сарака лепшых – ужо будзе дасягненне. Замежныя спартсмены займаюцца мотакросам прафесійна, зарабляюць грошы.

**– Дзіцячы спорт таксама ў крызісе?**

– Натуральна. Цяпер няма той цэнтралізаванай дапамогі мясцовым клубам, якая была ў савецкія часы. Ездзяць, трэніруюцца дзеці тых бацькоў, што ў стане купіць тэхніку. Ёсць такія чатыры хлопцы ў адзіным на Ашмяншчыне клубе "Фаварыт". Але і гэта ўсё не надта перспектыўна, бо грошы некалі скончацца. Дарэчы, мотакрос – даволі ўніверсальны спорт. Тут патрэбныя і моцнае цела, і добрая галава. Мотагоншчыкі з поспехам могуць выступаць у іншых тэхнічных відах.

**– Вось мы падышлі да сутнасці спорту. Чым прываблівае мотакрос? Якія ўражанні застаюцца ад гонак?**

– Вельмі відовішчны від. Рызыка, небяспека. Дынамічнасць. Рэзкі перапад хуткасцяў. Няроўнасці на трасе, ухабіны. А колькі народу прыходзіць на спаборніцтвы! Прыкладам, калі палякі прыехалі ў Ваўкавыск і ўбачылі там каля дзесяці тысяч людзей, дык проста "адпалі". Падобная цікаўнасць і ў Ашмянах. У Расіі такога я не бачыў. Упэўнена сцвярджаю: мотакрос – вельмі папулярны від спорту на Беларусі. Яго ў нас ведаюць і любяць.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Аляксандр Гіруць падчас чэмпіянату свету ў Гданьску.*
ФОТА З АРХІВА АЛЯКСАНДРА ГІРУЦЯ.

*ПРАМЫСЛОВАСЦЬ*

## Беларуская ўстаноўка ачышчае расійскія свідравіны

СМАРГОНЬ. 13 сакавіка з варот завода аптычнага станкабудавання выйшла першая 40–тонная ўстаноўка РАНТ для ачысткі нафтавых і газавых свідравін.

Яна выраблена па заказе расійскіх нафтаздабытчыкаў. У сакавіку будзе выпушчаная другая ўстаноўка. Гэтыя і іншыя заказы дазволілі прадпрыемству поўнасцю загрузіць вытворчыя магутнасці; працягваецца прыём станочнікаў усіх спецыяльнасцяў.

*Павел МАКЛЮК.*

## Івянчане экспартуюць брыкет

ВАЛОЖЫН. На малым прадпрыемстве "Іва", што ў Івянцы, пачалі выпускаць паліўныя брыкеты з адходаў драўніны (пілавінне, шчэпкі) для камінаў. Для гэтага прадпрыемства закупіла спецыяльную ўстаноўку. Прадукцыя выгадная тым, што зольнасць складае ўсяго 1%. Хаця па ўсім відаць, што кошт яе будзе не па кішэні многім з уладальнікаў гэтых самых камінаў. Таму новая прадукцыя, мусіць, цалкам будзе ісці на экспарт.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА*

## Кармы з Брагіна ды Брэста

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. Недахоп традыцыйных кармоў прымушае кіраўніцтва сельскіх гаспадарак Вілейшчыны закупляць і нарыхтоўваць альтэрнатыўныя. Штодня праз горад праязджаюць вялікагрузныя аўтамабілі з саломай. Яе возяць аж з Брэсцкай вобласці. Амаль усім гарадскім прадпрыемствам і арганізацыям, уключаючы райвыканком, даведзены план па нарыхтоўцы яловых лапак. Праўда, калі карміць скаціну гэтымі кармамі, наўрад ці можна разлічваць на якое-небудзь прыбаўленне вагі.

Гаспадаркі Маладзечаншчыны смела выкарыстоўваюць на корм скаціне, прыкладам, сілас з Брагіна. Тое, што мяса ці малако будуць з павышаным утрыманнем радыенуклідаў, нікога, відаць, не хвалюе.

На шчасце, не чуваць, каб у рэгіёне скаціну выганялі ўжо на палі. Бо ў некаторых раёнах краіны каровы вымушаныя здабываць сабе ежу з-пад снегу ды лёду.

*Ігар КІЦІКАЎ, аддзел інфармацыі.*

 



ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# У дзіцячых садках Маладзечна не адзін дзень дзеці не атрымліваюць цукар, масла, мясапрадукты



Саша, Андрэй і Жэня не ведаюць, што заўтра будзе на сняданак.
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

МАЛАДЗЕЧНА. Некаторы час таму з мэтай аблегчыць жыццё прадпрыемстваў усе дзіцячыя садкі горада перадалі на баланс аддзела адукацыі гарвыканкома. "Спадарожніку", напэўна, цяжкавата было ўтрымліваць на сваім балансе 5 садкоў. Але ж ёсць і ЗМК з яго, ў лепшым сэнсе, элітным "Сонейкам", і мэблевая фабрыка... Словам, рашэнне перадаць усе садкі ў гараа выглядае небясспрэчным.

Да нядаўняга часу дзіцячы садок №19 быў на балансе "Электрамодуля". Прадпрыемства ў фінансавым плане не самае магутнае, але дзеткі самае неабходнае, усё ж, атрымлівалі.

Дайшло да таго, што на гэтым тыдні 3 дні запар у садку не было цукру, таму загадчыца вымушаная была прасіць дапамогі ў бацькоў. Цяпер на некалькі дзён заказалі мяса, кілбасы, індычыны. Што будзе далей, не ведае ніхто.

Апошнімі днямі давялося размаўляць з многімі работнікамі садкоў. Становішча аднолькавае паўсюль, аптымізму не назіраецца. Некаторыя гаварылі, што на бліжэйшыя 2–3 дні абяцалі мяса, а далей – поўная невядомасць. Характэрна, што ніводны кіраўнік не адважыўся, каб ягонае прозвішча "засвяцілася" ў газеце. Нават супрацоўнікі гарвыканкома прасілі не згадваць іхнія прозвішчы. Боязь магчымых санкцый?

Цяпер бацькі за ўтрыманне дзяцей плацяць 81,4 рубля ў ясельнай групе і 101,2 рубля ў "звычайнай". Гэтых грошай хапае, каб забяспечыць усяго пятую частку ад патрэбнага харчавання. Пра іншыя выдаткі (на зарплату, рамонт, іншае) гаворка не ідзе. Таму атрымліваецца, што садкі амаль поўнасцю знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы.

Больш забяспечаныя бацькі выказваюць прэтэнзіі, і, мусіць, справядлівыя. Яны згодныя замест 2 тысяч у месяц плаціць 5 і нават 10 (хаця не ўсе, натуральна, змогуць плаціць такія грошы). Ды зноў магчымая крытыка: чаму плацім па–рознаму, а кормяць аднолькава?

Як выйсце, можна зрабіць "камерцыйныя групы", дзе такім дзецям будуць аказваць дадатковыя паслугі за дадатковую плату. А іншыя, атрымліваецца, дзеці "другога гатунку"? Бацькоў, як вядома, не выбіраюць. Такое вось атрымліваецца замкнутае кола.

**Для даведкі:** агульная запазычанасць бюджэтнікам па горадзе складае 400 мільёнаў. У тым ліку, за харчаванне (садкі і школы) даўгі склалі 12,42 мільёна. На 12 сакавіка даўгі па зарплаце перавысілі 46 мільёнаў (па плане зарплату ў бюджэтных прадпрыемствах павінны выплачваць з 4 па 8 чысло кожнага месяца).

*Юрый КАРПІЦКІ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 9 сакавіка | 16 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 419,00 руб. | 424,00 руб. |
| Марка Герм. | 205,39 руб. | 209,90 руб. |
| Літ | 104,72 руб. | 106,00 руб. |
| Рас. руб. | 14,68 руб. | 14,89 руб. |
| Злоты | 101,31 руб. | 103,60 руб. |
| ЕЎРА | 401,72 руб. | 410,54 руб. |

## «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 880 – 900 руб. | 890 – 910 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 07.03 | 15.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3720 | 3430 |
| Сасіскі | 1 кг | 1000 | 933 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 680 | 670 |
| Рыс | 1 кг | 390 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 550 | 560 |
| Цукар | 1 кг | 255 | 255 |
| Алей | 1 л | 640 | 640 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 370 | 360 |
| Маянэз | 250 г | 160 | 160 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | 300 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | 210 |
| Лімоны | 1 кг | 920 | 920 |
| Апельсіны | 1 кг | 620 | 620 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 170 | 170 |
| Морква | 1 кг | 280 | 240 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 500 | 550 |
| Малако | 1,5 л | 220 | 220 |
| Бульба | вял.вядро | 800 | 800 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | 450 |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | 400 |
| Капуста | 1 кг | 130 | 130 |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

**14 лютага 2000 года каля 23 гадзін 30 хвілін у вёсцы Краснае Маладзечанскага раёна па вуліцы 1 Мая каля дома №17 неўстаноўленая вялікагрузная аўтамашына здзейсніла наезд на грамадзяніна С. Вайцяховіча, у выніку чаго апошні ад атрыманых цялесных пашкоджанняў памер на месцы ДТЗ. Усіх грамадзян, якія маюць якую–небудзь інфармацыю па вышэйзгаданым дарожна–транспартным здарэнні, просім патэлефанаваць па нумары ў Маладзечне 79231 (следчы В. Шульга).**

ТРАНСПАРТ

# Маладзечна: чакаем гарадскі аўтобус

## Не хапае паліва

**Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

Пётр Мамчыц працуе дырэктарам АП №4 больш за чвэрць стагоддзя.

– Прычыны кепскага руху аўтобусаў празаічныя, – гаворыць ён. – Не хапае грошай ні на паліва, ні на новыя аўтобусы, ні нават на запасныя часткі.

На сёння, прыкладам, мы вінаватыя нафтабазе 26 мільёнаў дэнамінаваных рублёў, нашых жа грошай хапае толькі на тое, каб плаціць заработную плату работнікам. Каб неяк наладзіць работу аўтапарка, нам трэба павысіць тарыфы ў 2–3 разы. Пры ўмове, што не будуць даражэць паліва і дэталі.

Аўтобусы, якія выходзяць на лінію, бывае, адстаюць ад свайго графіка: іх не хапае. Замест запланаваных 31 аўтобуса выходзяць на маршруты, у лепшым выпадку, 28. Натуральна, яны ходзяць перапоўненыя і таму рэгулярна адстаюць ад графіка.

Летась аўтапарк абслужыў у гарадскім транспарце 18 мільёнаў 648 тысяч пасажыраў; па раёне іх меней – 2 мільёны 560 тысяч. Параўнанне напрошваецца само сабой: 2 разы ўсю Беларусь перавезлі.

Уласных даходаў атрымана 167 мільярдаў – імі маладзечанскі аўтапарк пакрыў 52,2% выдаткаў. А так аўтатранспартнікі і пасажыры разам з імі знаходзяцца на ўтрыманні гарадскога і раённага бюджэтаў. На вясну запланавана яшчэ адкрыць маршрут да Сакалоўкі.

**Заканчэнне будзе.**

*Галіна БАРЫСЕВІЧ,*
*Юрый КАРПІЦКІ,*
*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

ПАДАТКІ

## Паляванне на кветкі прынесла амаль 100 тысяч

МАЛАДЗЕЧНА. Перад 8 Сакавіка кожны мужчына лічыць абавязкам падарыць сваім жанчынам кветкі. Попыт быў настолькі вялікі, што цэны на ружы і гваздзікі часам былі ў 2 разы вышэйшыя, чым у звычайныя дні, і верагоднасць таго, што нейкая частка даходаў будзе схаваная ад падаткаабкладання, была высокая.

Аддзел падатковых расследаванняў з 3 па 7 сакавіка правёў аперацыю "Кветкі".

Праверана 12 аб'ектаў, выяўлена 11 парушэнняў, канфіскавана кветак на суму 86 тысяч рублёў.

Яны былі рэалізаваныя ў дзяржгандлі. У бюджэт горада паступіла 93 тысячы. Узбуджана 1 крымінальная справа з–за таго, што адзін з прадпрымальнікаў не першы раз за год "папаўся" на ўтойванні сваіх даходаў.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Аддзел падатковых расследаванняў рыхтуе курортны сезон

За 2 месяцы гэтага года Маладзечанскі міжраённы аддзел падатковых расследаванняў праверыў 79 аб'ектаў гаспадарання. Намеснік начальніка аддзела Эдмунд Станкевіч гаворыць, што сума штрафаў склала 21,85 мільёна рублёў, узбуджана 11 крымінальных спраў.

Па Вілейскім раёне рэйд "фінансавая міліцыя" правяла 6–7 сакавіка – праверыла гарадскія гандлёвыя пункты і рэчавы рынак. За ўтойванне даходаў складзена 17 пратаколаў. У мясцовы бюджэт пайшло больш за 210 тысяч рублёў.

У Валожынскім раёне у ноч з 3 на 4 сакавіка складзена 9 пратаколаў. "Улоў" склаў 213 тысяч рублёў. На Ракаўскім рынку затрымалі жыхара Ашмянскага раёна, які прадаваў мяса без аніякіх дакументаў. Выручка (102 тысячы рублёў) і мяса канфіскаваныя.

А жыхары Мядзельскага раёна пакуль могуць адпачываць. Асноўную частку рэйдаў яны мусяць чакаць летам, калі пачнецца курортны сезон.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Злачыннасць непаўналетніх у рэгіёне

| | Колькасць злачынстваў, здзейсненых непаўналетнімі (чал.) 1998г. | 1999г. | Колькасць непаўналетніх, занятых у злачынствах (чал.) 1998г. | 1999г. | Доля злачынстваў, здзейсненых непаўналетнімі, у агульнай колькасці злачынстваў 1998г. | 1999г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Маладзечна (горад + раён) | 171 | 95 | 98 | 62 | 20,6% | 12,0% |
| Астравецкі р-н | 10 | 8 | 13 | 6 | 7,3% | 6,0% |
| Ашмянскі р-н | 33 | 17 | 15 | 23 | 16,5% | 10,5% |
| Валожынскі р-н | 23 | 29 | 19 | 29 | 15,8% | 17,4% |
| Вілейскі р-н | 55 | 53 | 47 | 42 | 17,7% | 16,6% |
| Мядзелскі р-н | 42 | 68 | 14 | 26 | 17,4% | 28,8% |
| Смаргонскі р-н | 74 | 51 | 37 | 38 | 25,2% | 14,3% |

Сітуацыю па Маладзечанскім раёне каменціруе начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Барыс Сіняўскі:

– Пачынаючы з 1995 года, сітуацыя са злачыннасцю ў нашым раёне стабілізавалася. Летась атрымалі вынік: колькасць злачынстваў знізілася амаль у 2 разы.

Адна з прычын – прынцыповая і канкрэтная работа нашых інспектараў. Яшчэ адной вымушанай прычынай з'яўляецца актыўная работа па "выцягванні" дзяцей з цяжкіх сем'яў. На вялікі жаль, большую частку злачынстваў робяць менавіта дзеці з такіх сем'яў. Толькі за мінулы год у горадзе і раёне 98 сем'яў былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў. Натуральна, мера не самая папулярная, але большасць такіх дзяцей толькі так можна выратаваць ад турмы.

*Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Гвалтаўнікі і іх ахвяры

СМАРГОНЬ. Апошнія месяцы ў горадзе пачасціліся выпадкі насілля над жанчынамі. Здзяйсняюцца згвалтаванні па–рознаму.

У лістападзе мінулага года была згвалтаваная 14–гадовая школьніца. Яна пасля ўрокаў весела бавіла час у коле маладых хлопцаў і дзяўчат, усё гэта суправаджалася ўжываннем спіртнога. Пачалі ў бары, а скончылі ў адным з дамоў. У начны час пацярпелая і была згвалтаваная 19–гадовым хлопцам. Гвалтаўнік выкарыстаў нецвярозы стан дзяўчыны і сваю перавагу ў сіле.

Работнікам міліцыі, куды звярнулася з заявай маці пацярпелай, давялося нямала папрацаваць, каб устанавіць ісціну. Таму што першапачаткова дзяўчына заявіла, што была згвалтаваная бацькам. Потым патлумачыла, што баялася помсты з боку сапраўднага гвалтаўніка. Але ўсе абставіны высветліліся ў ходзе следства. Гвалтаўніка арыштавалі, а суд вызначыў яму пакаранне ў выглядзе 6 год пазбаўлення волі.

Яшчэ адна заява ў міліцыю паступіла ад 13–гадовай вучаніцы. Яна заявіла, што яе хацеў згвалціць 50–гадовы мужчына. Было гэта ў неўралагічным аддзяленні бальніцы, дзе яны праходзілі лячэнне. Цяпер следства высвятляе ўсе абставіны таго, што адбылося, каб вырашыць пытанне аб наяўнасці саставу злачынства.

16–гадовая дзяўчына падверглася нападу 24–гадовага мужчыны, калі ўвечары ішла па вуліцы горада. Мужчына быў у нецвярозым стане; дамагаючыся ад дзяўчыны блізкасці, ён расказаў, што пасварыўся з жонкай, што тая падала на развод. Пры гэтым паваліў ахвяру на зямлю, спрабаваў сарваць з яе адзенне. Дзяўчына актыўна супраціўлялася, крычала. Гэта і дапамагло ёй уцячы ад гвалтаўніка. Дома яна ўсё расказала бацькам. Бацька з суседам затрымалі злачынцу і здалі яго ў міліцыю.

Звярнулася ў міліцыю з заявай аб згвалтаванні і 18–гадовая жыхарка Смаргоні. Яна ўказала, што згвалціў яе невядомы мужчына ў аўтамабілі за горадам. Міліцыя пачала пошукі гвалтаўніка. Адначасова было ўстаноўлена, што дзяўчына да позняй ночы бавіла час у бары, дзе дастаткова многа выпіла. На наступны дзень ад яе паступіла другая заява, што яна просіць праверкай не займацца, прэтэнзій ні да каго не мае, таму што нічога не памятае, бо была п'яная.

Справы аб згвалтаваннях узбуджаюцца толькі па заявах пацярпелых. У кожным выпадку высвятляюцца канкрэтныя прычыны гэтага віду злачынстваў. Хаця ёсць і агульныя прычыны – зніжэнне агульнага ўзроўню маралі ў нашым грамадстве. Мужчыны не заўсёды паводзяць сябе прыстойна ў адносінах з жанчынамі, а жанчыны падчас самі ствараюць сітуацыі, калі робяцца пацярпелымі.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*



 

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі качкі тлустыя прыляцелі, вясна выдасца доўгая і халодная.

Дзікія гусі гагочуць – вясна наступіла, а ты, варона, колькі ні каркай, вясны не наклічаш.

**22 сакавіка** – Саракі (Соракі), 40 пакутнікаў. "На Саракі дрэвы адпушчаюцца", – сведчылі народныяназіранні. Дзень параўноўваўся з ноччу. "Прылятае 40 жаўранкаў".

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Хоць не багаты, а гасцям рады

## Салата з сырым салодкім перцам

***Салодкі перац*** парэжце палоскамі, змяшайце з кубікамі ***свежага агурка***, з нашынкаванай ***белакачаннай капустай***, з кружочкамі ***памідораў***, з ***адварным рассыпістым рысам***, з ***парэзанай кілбасой***. Пакладзіце дробна парэзаную ***рэпчатую цыбулю***, пасаліце, дадайце ***зелянiну, гарчыцу***, запраўце ***маянэзам***.

## Грэнкі вострыя

На 10 лустачак хлеба (1/3 батона) – 50 г сыру, 40 г масла, 4–5 вялікіх лыжак малака, соль, молаты чырвоны перац.

З батона зрэжце скарынку, парэжце яго лустачкамі таўшчынёй 1 см і спырсніце малаком. Сыр падзярыце, перамяшайце з распушчаным маслам, пасаліце, намажце гэтай сумессю лустачкі, зверху пасыпце молатым чырвоным перцам. Грэнкі пакладзіце на бляху і пастаўце ў моцна нагрэтую духоўку на 5 хвілін. Падрумяньце іх да залацістага колеру.

## Смажонка

300 г ялавічыны, 1 цыбуліна, 6 бульбін, 1 морква, 40 г сала, 2 маленькія лыжкі масла, 4 сухія грыбы, 4 мал. лыжкі смятаны, 2 лыжкі тамат–пюрэ або 2 памідоры, парэзаныя скрылькамі, 1 мал. лыжка мукі, зеляніна, спецыі.

Мяса парэжце скрылькамі і абсмажце. Моркву, цыбулю, вараныя грыбы парэжце і пасмажце. Сырую бульбу парэжце скрылькамі і злёгку абсмажце. Муку падсмажце да карычневага колеру. Падрыхтаваныя прадукты пакладзіце ў каструлю і заліце грыбным булёнам. Дадайце смятану, тушыце пад накрыўкай. Пры падачы на стол пасыпце зелянінай.

## Цукеркі «Каштаны»

Зварыце пяць яек, выцягніце з іх жаўткі (бялкі можна выкарыстаць для фаршыраваных яек і для любых салатаў). Распусціце пачку маргарыну, пакладзіце ў яго 3 вялікія лыжкі смятаны, соды на кончыку маленькай лыжкі, ванілін, расцертыя жаўткі і ўсыпце 2–2,5 шклянкі мукі; цеста старанна вымешайце і пастаўце ў халадзільнік на 40 хвілін. Затым накатайце шарыкі памерам з грэцкі арэх і запякайце ў духоўцы пры тэмпературы 150–200° 30–40 хвілін. Потым прыгатуйце глазуру: вазьміце 100 г малака, 1 вял. лыжку цукру, 3–4 вял. лыжкі какавы і 100 г масла. Усё гэта пракіпяціце да поўнага растварэння цукру, астудзіце. Надзярыце на тарцы любыя вафлі. Гатовыя шарыкі абмаквайце у глазуру і ўкачвайце ў вафлях (вафлі можна замяніць дамашнімі паніровачнымі сухарамі з белага хлеба, падсушанага да залацістага колеру ў духоўцы). Гатовыя цукеркі пакладзіце ў цукерніцу.

## Самбук яблычны

***1 кг яблыкаў, 2 шклянкі цукровага пяску, 2 мал. лыжкі жэлаціну, бялкі 3 яек.***

Яблыкі кіслых гатункаў памыйце, пакладзіце на патэльню, дадайце ваду. Пастаўце ў духоўку. Калі яблыкі зробяцца мяккія, пратрыце іх праз сіта і ахаладзіце. У халоднае яблычнае пюрэ пакладзіце цукар і яечныя бялкі, масу ўзбіце венчыкам да павелічэння ў аб'ёме ў 4–5 разоў. Уліце загадзя падрыхтаваны і распушчаны ў 1/2 шклянкі кіпню жэлацін, хутка вымешайце, разліце ў формы для ахаладжвання.

*Падрыхтавала*
*Наталля БРОЎКА.*

### ПРОСТА АНЕКДОТ



Прыходзіць у турагенцтва мужык:

– Трэба босу наладзіць шыкоўны адпачынак. Цана значэння не мае!

Яму прапануюць розныя там Канары, Егіпты і г. д. Нічога не падыходзіць. Памеркавалі ды прапанавалі яму заарэндаваць востраў. Той згадзіўся, але з некаторымі ўмовамі:

– На беразе вострава павінен стаяць трохпавярховы дом адпачынку – без наведвальнікаў і за тры метры да мора; надвор'е – толькі яснае, хмаркі разагнаць; паўсюль пальмы пасадзіць; на кожным кроку паўлінаў размясціць – і каб не ўцякалі; каб чайкі ляталі – прычым толькі злева направа (раздражняе) і з завязанымі дзюбамі (а то шумяць)...

Зрэшты, прыехаў той "новы рускі" на востраў. Выйшаў на балкон, удыхнуў паветра, замілаваўся паўлінамі, паглядзеў на чаек, што з завязанымі дзюбамі насіліся па крузе, і задуменна сказаў:

– Сапраўды... Не ў грашах шчасце...

### НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Не перасылайце грошы жонцы праз сябра

Вось якую гісторыю расказаў мне нядаўна афіцэр былога гарнізона ў Паставах. Група афіцэраў пасля палучкі дамовілася наведаць павільён "Блакітны Дунай". Адзін з афіцэраў па якойсьці прычыне адмовіўся ўдзельнічаць у пірушцы і збіраўся дадому. Сусед па пад'ездзе просіць:

– Зайдзі да маёй палавіны і перадай маю зарплату. Пакуль вярнуся дадому, зробіць пакупкі. Гаварыла, што ў яе кашальку гуляе вецер.

Сусед з грашыма зайшоў на кватэру да сябра. Была дома яго маладая жонка. Пачаў ветліва з ёй размаўляць, сыпаць кампліментамі, прапанаваў інтымную паслугу.

– Прэч, нягоднік, з кватэры! – абурылася кабета. – Прыйдзе муж, дык яму пра ўсё раскажу.

– А я за паслугу ўсю зарплату...

Дамова адбылася. Грошы ляжалі ў кашальку суседкі–афіцэрыхі.

Калі вярнуўся муж, жонка пачала патрабаваць справаздачу, моцна гневалася:

– Наш сусед не швэндаецца па забягалаўках, не прапівае грошы, дамоў прыносіць!

– Я ж праз яго перасылаў сваю зарплату. Няўжо нягоднік недзе загуляў?

Жонка адразу зрэагавала:

– Ну што з таго, што перадаў? Я ж хачу грошы атрымліваць толькі з тваіх рук.

Гэтая тайна выкрылася праз некалькі год, калі сквапная на грошы афіцэрыха разам з мужам пераехала ў іншы гарнізон.

Вось і перасылай свае грошы сваёй жонцы праз суседа...

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

### ХАВАЙСЯ У БУЛЬБУ

## 20 год таму

Гісторыя здарылася больш за 20 год таму, калі адбываў тэрміновую службу. Расказалі яе мне знаёмыя, якія служылі ў палку сувязі (сваёй сталоўкі ў нашай часці не было, таму рэгулярна сталаваліся ў "пяхоце").

Адправілі іх (тры чалавекі) неяк на работы ў гэтую самую сталоўку. Паколькі дзяжурная змена на кухню заступіла ўжо, то прапаршчык, да якога іх прызначылі ў падначаленне, выдаў класічныя рыдлёўкі, адвёў за сталоўку і загадаў:

– Будзеце капаць яму для адходаў. Памерам, прыкладна, тры метры на тры метры і на тры метры!

– Таварыш прапаршчык, а можна, мы замест адной ямы тры на тры на тры выкапаем тры ямы адзін на адзін на адзін? – спытаўся нехта.

Прапаршчык трохі памарудзіў, нешта падлічыў, затым пацiснуў плячыма:

– Капайце...

*Запісаў*
*Сямён РАБІНОВІЧ.*

### КРЫЖАВАНКА

*ад Мікалая Хадасевіча*



**Па гарызанталях:** 3. Той, хто ў сваю дзейнасць уносіць і выкарыстоўвае новыя, прагрэсіўныя метады і прыёмы. 6. Асоба, якая выступае на судзе ў абарону каго-небудзь. 10. Званне, звязанае з пачэсным становішчам. 11. Журба, маркота, туга. 13. Жаласлівасць, спагадлівыя, велікадушныя адносіны. 16. Збудаванне ў выглядзе вялікіх варот з перакрыццём у форме дугі. 17. Драўлянае збудаванне з бярвенняў, якое злучана ў чатырохвугольныя вянкі, пакладзеныя адзін на адзін. 18. Дзікі конь, вадзіўся даўней у паўночнаамерыканскіх стэпах. 20. Духавы медны музычны інструмент у выглядзе ражка. 21. Хвастатае земнаводнае з сям'і саламандраў, падобнае да яшчаркі. 22. Знак задыяка. 24. Дакладны каляндарны час якой-небудзь падзеі. 25. Струнны музычны інструмент у форме вертыкальнай трохвугольнай рамы для ігры пальцамі. 28. Расійскі футбаліст, гуляе ў Германіі. 32. Халодная колючая зброя ў выглядзе кінжала ў афіцэраў ваенна–марскога і ваенна-паветранага флоту. 34. Глядзельнае шкло, звернутае да вока назіральніка. 35. Невялікая ручная піла. 36. Народны паэт–спявак у казахаў, кіргізаў і некаторых іншых народаў. 37. Беспарадак, неразбярыха. 38. Асоба, якой пасылаецца што–небудзь па пошце. 39. Праваднік пры турыстах. 43. Вясной весяліць, летам халадзіць, восенню корміць, зімой саграває (заг.). 44. Установа на дзяржаўнай граніцы, якая кантралюе перавозку тавараў і бярэ спецыяльныя пошліны. 45. Расліна або жывёла, якая жыве на паверхні або ўнутры іншага арганізма і корміцца за кошт яго.

**Па вертыкалях:** 1. У народаў Усходу ў сярэднія вякі: тытул феадальнага правіцеля, а таксама асоба, якая мела гэты тытул. 2. Самы нізкі мужчынскі голас. 3. Кароткі запіс. 4. Мера плошчы, роўная 100 $м^2$. 5. У вайсковай справе: вугал, які ўтвараецца зададзеным напрамкам руху і напрамкам на поўнач. 7. Вучонае званне выкладчыка вышэйшай навучальнай установы. 8. Лётчык, які валодае выдатным лётным і баявым майстэрствам. 9. Рухавік, у якім энергія пары, газу або цячэння вады ператвараецца ў механічную работу. 12. Стройнае спалучэнне некалькіх гукаў. 14. Назва папярос. 15. Земляроб. 18. Верхні няпоўны паверх, надбудаваны над сярэдзінай дома. 19. Від выяўленчага мастацтва, асноўным сродкам якога з'яўляецца малюнак, выкананы алоўкам, пяром або вугалем. 22. Бяспраўны эксплуатуемы чалавек. 23. Той, хто жорстка б'е, мучыць (на допыце). 26. Тоўстая шаўковая тканіна, з аднаго боку пакрытая кароткім мяккім ворсам. 27. Старая руская мера даўжыні, роўная 71 см. 29. Дагавор або частка дагавора. 30. Каштоўны празрысты камень незвычайнай цвёрдасці. 31. На пагонах: каляровая падоўжаная палоска. 33. Спецыяльная тоўстая цвёрдая папера. 34. Жаночае імя. 40. Верхняя частка будынка, якая пакрывае яго. 41. Нота. 42. Нота. 43. У спорце: вынікі гульні, выражаныя ў лічбах.

***Адказы на чайнворд, змешчаны у № 9***

1. Аба. 2. Ава. 3. Ага. 4. Ара. 5. Аша. 6. Амга. 7. Арба. 8. Айва. 9. Атава.

### ГАРАСКОП 20 – 26 САКАВІКА



***Авен (21.03–20.04)***

Падзеі тыдня могуць быць звязаныя з сябрамі і асабістымі планамі. Абяцанні, асабліва ў матэрыяльнай сферы, рызыкуюць стаць прычынай канфлікту.



***Цялец (21.04–21.05)***

Аўторак можа запатрабаваць большага напружання сіл. Але астатнія дні з лішкам усё кампенсуюць. Добрыя абставіны дазволяць справіцца з праблемамі і задачамі.



***Блізняты (22.05–21.06)***

Вырашэнне разнастайных пытанняў найбольш удалае будзе ў сераду, чацвер, пятніцу. З каханымі не сварыцеся, а з дзецьмі – тым больш.



***Рак (22.06–23.07)***

Тыдзень, у цэлым, абяцае быць дастаткова добры. Пачынаючы з серады, дні будуць мець бадзёры настрой і абяцаюць дзелавыя поспехі.



***Леў (24.07–23.08)***

Панядзелак і аўторак больш падыходзяць для паўсядзённых спраў. Астатнія дні спрыяюць устанаўленню і замацаванню новых дзелавых сувязяў.



***Дзева (24.08–23.09)***

Загружанасць справамі можа перашкодзіць усяму астатняму, толькі ад сямейных клопатаў нікуды не схавацца. Аўторак небяспечны на прастудныя захворванні.



***Шалі (24.09–23.10)***

Дзеці, каханне, творчасць – асноўныя пазіцыі тыдня. Нервовых затрат яны могуць патрабаваць у аўторак, а ў астатнія дні ваш настрой не павінны азмрочыць непрыемнасці.



***Скарпіён (24.10–22.11)***

Асноўныя інтарэсы гэтага тыдня могуць засяродзіцца вакол дамашняга ачага.



***Стралец (23.11–21.12)***

Не прымайце на веру ніякія чуткі. На гэтым тыдні лепш за ўсё будзеце адчуваць сябе ў сям'і або з каханым чалавекам.



***Казярог (22.12–20.01)***

Поспехі ў фінансавай сферы. Больш актыўнасці – і вам удасца аказацца на грабяні хвалі.



***Вадалей (21.01–19.02)***

На панядзелак і аўторак важныя справы лепш не планаваць. У наступныя дні з бляскам вырашыце ўсе праблемы.



***Рыбы (20.02–20.03)***

Калі свае думкі і меркаванні пра навакольных або начальства не будзеце выказваць уголас, вам нішто не перашкодзіць паспяхова рашыць многія свае праблемы.

